



# Рэгіянальная газета. Rh.by


тэлетыдзень
27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

6 мая 2016 года №19 **(1097)**


## Ачысціце сябе ад стрэсу, і вам не давядзецца лячыць неўроз

**Гутарым з псіхіятрам Аляксандрам Бажко**

старонка 5

## Не дайце турфірме выцягнуць лішнія грошы

**Для тых, хто не хоча быць падманутым**

старонка 3

## Розніца ў заробках паміж раёнамі большае



старонка 2

## У Маладзечне рэзка абвастрылася крымінальная сітуацыя

старонка 4

## Аляксандр Гармаза: "Задач на сезон няма, адны алгарытмы"

старонка 22


**КУХНИ ШКАФЫ-КУПЕ**
по индивидуальным проектам
*Возможна рассрочка*
Телефоны: (8-029) **853-20-06** (МТС),
(8-044) **560-46-96** (Велком).
ИП Глазистов О.С. УНП 690692700


# Са святам Перамогі!

**У нумары:**
**Як будуць святкаваць 9 Мая ў Маладзечне, Мядзеле і на Вілейшчыне**

# І праз 71 год імёны герояў вяртаюцца

**Гісторыя лёсу танкавай роты пад камандаваннем лейтэнанта Рыгора Кіяшкі. Бой за Краснае**



старонка 6

Фота s019.radikal.ru, 41.media.tumblr.com.

# Праблемы аховы спадчыны і гарачыя дыскусіі па ўказе

## На Мядзельшчыне сабраліся прадстаўнікі таварыства аховы помнікаў і дзяржаўных устаноў

МЯДЗЕЛ

**Навукова-практычная канферэнцыя "Праблемы аховы і інтэрпрэтацыі помнікаў гісторыі і культуры. Грамадска-дзяржаўнае партнёрства" прайшла 30 красавіка - 1 мая. Прымаў яе агратурыстычны комплекс "Наносы-Наваселле" ля Нарачы.**

– Асноўная мэта канферэнцыі – сабраць спецыялістаў як з боку таварыства аховы помнікаў, так і з боку дзяржаўных іституцый. Былі прадстаўнікі Міністэрства абароны і Міністэрства спорту і турызму, рэгіянальных музеяў і выканкамаў, Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук, – кажа старшыня Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры **Антон Астаповіч**. – Сабраліся, каб разам абмеркаваць праблемы аховы спадчыны, узаемадзеяння грамадства і дзяржавы, каб скаардынаваць сваю дзейнасць як у заканатворчых працэсах, так і ў працэсах вывучэння і рэстаўрацыі гісторыка-культурнай спадчыны.

Ацаніў ён, што ўсе даклады былі актуальныя, узровень іх быў высокі.

Шэраг дакладаў прысвячаўся нашаму рэгіёну. Гісторык **Алег Дзярновіч** разам з грунтоўным аналізам рэстаўрацыі замка ў Медніках у Літве падзяліўся праблемамі пры даследаваннях і распрацоўцы навукова-праектнай дакументацыі па рэстаўрацыі Крэўскага замка.

Археолаг **Мікалай Плавінскі** абодва даклады прысвяціў вынікам даследаванняў апошніх пяці год на Мядзельшчыне. У першым расказваў пра курганы могільнік Наўры. У ім разгледзеў пытанні сучаснага стану даследаванняў археалагічных помнікаў рэгіёна і перспектывы іх вывучэння і прэзентацыі матэрыялаў раскопак для шырокай грамадскасці.

Другі даклад прысвяціў Мядзельскаму замку. Расказаў пра вынікі раскопак апошніх трох год, сканцэнтраваў увагу на перспектывах музеефікацыі замкавых умацаванняў і іх турыстычнага выкарыстання.

– На канферэнцыі найбольш цікавым было абмеркаванне пытання аховы гісторыка-культурных помнікаў. Шмат увагі ў дыскусіі надалі новаму заканадаўству ў сферы археалагічнай спадчыны, – дадаў Мікалай.

### Дыскусіі па ўказу

Найбольш гарачыя дыскусіі выклікаў прэзідэнцкі ўказ №485 "Аб удасканаленні аховы археалагічных аб'ектаў і археалагічных артэфактаў".

– Бо тут сутыкнуліся два меркаванні: тых, хто цалкам стаіць на пазіцыі гэтага ўказа, і тых, хто калісьці, да ўказа, займаўся апаратным пошукам – у іх была свая думка, – кажа Антон Астаповіч. – Маё стаўленне да ўказа, як кіраўніка таварыства, крытычнае. Бо да гэтага часу мы не бачым канчатковых механізмаў, якія дазволяць рэалізаваць яго палажэнні.



Фота Сяргея ЧЫРЫКА.

Удзельнікі канферэнцыі знаёмяцца з музеем самавараў комплексу "Наносы-Наваселле".

Па выніках працы канферэнцыі выпрацавалі праект рэзалюцыі. У ёй прапанавалі пашырыць ролю грамадскасці, спецыялістаў з дзяржаўнай і недзяржаўнай сферы ў заканатворчай і нарматворчай дзейнасці пры правядзенні навуковых даследаванняў на аб'ектах гісторыка-культурнай спадчыны, распрацоўцы навукова-праектнай дакументацыі для правядзення рэстаўрацыйных работ. Адзначылі неабходнасць стварэння Дзяржаўнай інспекцыі па ахове гісторыка-культурнай спадчыны, падпарадкаванай Савету Міністраў Беларусі.

Канферэнцыя адбылася пры падтрымцы Фонду Конрада Адэнаўра і комплексу "Наносы-Наваселле".

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Даведка "РГ".** Указ Аляксандра Лукашэнкі №485 "Аб удасканаленні аховы археалагічных аб'ектаў і археалагічных артэфактаў" быў падпісаны 14 снежня 2015 года. Паводле ўказа выкарыстоўваць металашукальнікі і іншыя тэхнічныя сродкі для пошуку археалагічных артэфактаў можна будзе толькі ў афіцыйных археалагічных экспедыцыях. Указ забараняе таксама набываць, прадаваць, дарыць, змяняць і закладваць археалагічныя артэфакты. Прадугледжана перадача археалагічных артэфактаў, выяўленых пры правядзенні археалагічных даследаванняў альбо выпадкова, у дзяржаўную ўласнасць.

## Грамадскія слуханні па ферме на Мядзельшчыне працягнуцца

МЯДЗЕЛ

У вёсцы Нарач (Кабыльнік) 29 красавіка прайшоў сход па абмеркаванні справаздачы аб ацэнцы ўздзеяння на навакольнае асяроддзе фермы на 1800 кароў. Яе плануюць размясціць паміж вёскамі Нарач і Швакшты.

Гэта быў ужо другі сход, і, як аказалася, не апошні. У ім удзельнічалі прадстаўнікі мясцовай улады, распрацоўшчыкі і заказчыкі праекта, экалагічная і мясцовая грамадскасць.

На сходзе сярод іншых узнімалі пытанне, куды падзенуць вялікія аб'ёмы гною, які назапасіцца ў лагунах-гнаясховішчах.

Рэгіянальны каардынатар грамадскай экалагічнай інспекцыі "Зялёны дазор" **Ігар Пастухоў** па-ранейшаму лічыць, што ў праекце не прапісаныя мінімальныя рызыкі тэхнагеннага характару, чалавечага фактару і шляхі іх пераадолення. І дадае:

– У цэлым абмеркаванне прайшло прадуктыўна, з карысцю для ўсіх бакоў. Грамадскасць пачула і пагадзілася са справядлівымі заўвагамі, распрацоўшчыкам праекта прапанавалі паспець выправіць іх і падрыхтавацца да наступнага раўнда слуханняў 13 мая.

Так што, вырашылі правесці яшчэ адзін сход.

– Ён патрэбны, каб даць больш падрабязныя адказы на запыты эколагаў і грамадскасці, – кажа эканаміст таварыства "Нарацкая Ніва 2004" **Яўген Кудрук**. – Дадуць адказ па аб'ёмах гною, што будзе назапашвацца, ды іншых. Напрыклад, праектам прадугледжаная кацельня на цвёрдым паліве. Эколагі прапанавалі выкарыстоўваць біягазавыя ўстаноўкі на метане. Тэхнолагі праведуць неабходныя разлікі і зробяць заключэнне аб мэтазгоднасці такіх зменаў у праекце. І ўлічылі просьбу сабраць наступны сход у непрацоўны час – у 18:00.

**Аддзел інфармацыі.**

## Розніца ў заробках паміж раёнамі большае

### На Астравеччыне за сакавік налічылі амаль на 1,3 мільёна больш, чым на Валожыншчыне

У рэгіёне лідар па заробках не мяняецца. Па-ранейшаму гэта Астравецкі раён. Тут намінальная налічаная сярэднямесячная зарплата ў першым квартале крыху не дасягнула да шасці мільёнаў рублёў. Эксперты неаднойчы пісалі, што большыя заробкі на Астравеччыне звязаныя з будаўніцтвам АЭС.

На другім месцы ў рэгіёне – Маладзечанскі раён з сярэднім заробкам амаль у пяць мільёнаў восемсот тысяч рублёў. У тройцы лідараў таксама Смаргонскі раён, дзе налічылі больш за 5 мільёнаў 440 тысяч рублёў.

На Мядзельшчыне заробак перавысіў 5 мільёнаў 320 тысяч рублёў.

На Вілейшчыне зарплата яшчэ амаль на дзвесце тысяч меншая.

У Ашмянскім раёне яна не дацягнула да 5 мільёнаў 150 тысяч рублёў.

На апошнім месцы ў рэгіёне – Валожынскі раён. Там заробак ледзьве перасягнуў 5 мільёнаў.

Вышэй прывялі сярэднямесячныя зарплаты за квартал. За сакавік яны ў рэгіёне былі большыя. Так, на Астравеччыне заробак перавысіў 6 мільёнаў 400 тысяч рублёў. Падрабязна па кожным раёне глядзіце ў інфаграфіцы.

Вырасла таксама розніца ў заробку паміж раёнам-лідарам і аўтсайдарам. Калі ў сярэднім за квартал яна была меншая за мільён, то за сакавік – амаль 1,3 мільёна.

Рэальная ж заработная плата, разлічаная з улікам росту цэн на тавары і паслугі, у параўнанні з мінулым годам зменшылася ва ўсіх раёнах.

Гэткія дадзеныя прыводзіць Галоўныя статыстычныя ўпраўленні Мінскай і Гродзенскай абласцей.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**




**Даведка "РГ".** Зарплаты ў справаздачнасці ўказаныя налічаныя – без вылікаў падаходнага падатку, адлічэння ў пенсійны фонд і г. д.

## Да якога ўзросту дзеці могуць атрымліваць бясплатны Шэнген?

**Да 6 гадоў*:**
- Эстонія
- Латвія
- Швецыя
- Фінляндыя
- Францыя
- Чэхія

**Да 12 гадоў:**
- Літва
- Польшча
- Швейцарыя
- Грэцыя
- Італія
- Балгарыя
- Германія

* ад 6 да 12 гадоў віза каштуе 35 еўра

Калаж Аляксандры ПАРАХНІ.

Ілюстрацыя паказвае шэнгенскія краіны, якія карыстаюцца найбольшай папулярнасцю сярод беларусаў.

# Не дайце турфірме выцягнуць лішнія грошы

**На пачатку сезона адпачынкаў многія звяртаюцца ў турыстычныя фірмы. Там нам прапануюць варыянты адпачынку і дапамогуць сабраць дакументы. Але часам могуць і абдурыць.**

Кампанія "У Беларусь і Еўропу – БЕЗ ВІЗЫ!" нагадвае пра тыя дробязі, якія дапамогуць зэканоміць сямейны бюджэт.

– Той факт, што дзеці могуць атрымліваць бясплатныя візы, часта выслізгвае з-пад увагі беларусаў, – кажа **Вераніка Юранкова**, інфармацыйны каардынатар кампаніі. – Людзі думаюць, што яны прынеслі дакументы ў турфірму, заплацілі грошы, а што далей робіцца – не так важна. Галоўнае, каб быў вынік – гатовыя візы. Я рэкамендую ўсё ж паглыбіцца ў падрабязнасці і разбірацца, на што ідуць грошы і ці сапраўды паслуга столькі каштуе.

У кожнай з краін Шэнгену ёсць свае ўзроставыя абмежаванні для дзяцей. Напрыклад, польская і літоўская амбасады даюць бясплатныя візы дзецям да 12 гадоў, іспанская – да шасці.

Пры гэтым тэрмін дзеяння дзіцячай візы адпавядае тэрміну, на які атрымліваюць візу бацькі ці апекуны дзіцяці. На дзіця запаўняецца асобная візавая анкета і робіцца асобная страхоўка.

Менавіта пра бясплатнасць дзіцячых віз часам "забываюць" турфірмы. На нашым нядаўнім назіранні яны могуць зарабляць грошы. Калі мама і тата з пяцігадовым дзіцем хочуць выехаць у шэнгенскую краіну, то турфірма можа браць суму за абслугоўванне трох кліентаў, у тым ліку за тры візы. На практыцы візы атрымліваецца дзве, а кошт трэцяй губляецца ў агульнай суме.

– Калі вы ўжо вырашылі, у якой краіне плануеце правесці адпачынак з дзецьмі, то не палянуйцеся праверыць на сайце амбасады, да якога ўзросту дзеці могуць атрымліваць бясплатныя візы, – рэкамендуе Вераніка Юранкова.

## Ці стане рэальнасцю малы памежны рух?

Пытанне пра старт малога памежнага руху (МПР) на беларуска-польскай і беларуска-літоўскай граніцах вісіць у паветры з 2010 года. Беларускі бок дагэтуль не ратыфікаваў дамову і не даслаў у суседнія краіны дыпламатычную ноту. Чаму так адбываецца, адказваюць эксперты.

**Гжэгаж Грамадзкі**, эксперт па пытаннях Усходняй Еўропы фонду імя Стэфана Баторыя (Польшча):

– Пакуль Украіна і Грузія сёлета падпісваюць дакументы аб адмене віз, Беларусь ужо шосты год не можа распачаць МПР. Гэта пытанне выключна палітычнае: у зону МПР уваходзяць буйныя гарады Брэст і Гродна, беларуская эканоміка панясе эканамічныя страты, калі мільён жыхароў пачне ездзіць у суседнія краіны. На жаль, пры сённяшняй палітычнай сітуацыі ў Беларусі я не бачу магчымасці нешта змяніць у гэтым пытанні. Адзінае, што можа рабіць грамадскасць – звяртацца да чыноўнікаў з просьбамі і патрабаваннямі, падымаць пытанне аб старце МПР і адмене віз, паказваць, што гэта важна для людзей.

**По дадзеных Еўракамісіі, беларусы цягам апошніх гадоў выдаткавалі на візы 200 мільёнаў еўра**

**Алесь Герасіменка**, эксперт кампаніі "У Беларусь і Еўропу – БЕЗ ВІЗЫ!":

– Ёсць меркаванне, што ў нас недастаткова памежнай інфраструктуры, каб пачаць МПР. Нібыта столькі людзей захоча перасякаць мяжу, што існуючыя памежныя пункты не справяцца з патокам. Але, па-першае, не ўсе жыхары памежжа змогуць атрымаць дазвол на МПР. Яго атрымаюць толькі тыя, хто дакажа свае кроўныя, культурныя ці працоўныя сувязі з памежжам суседняй краіны. Падругое, большасць жыхароў памежжа і так рэгулярна перасякае мяжу па візе, таму паток людзей наўрад ці істотна павялічыцца. Як паказвае досвед Украіны і Расіі, у якіх ужо дзейнічае МПР з Польшчай, памежнікі спраўляюцца з працай без адкрыцця дадатковых пунктаў пропуску.

**Беларускі пашпарт мае 22 старонкі, прызначаныя пад візы – у актыўных падарожнікаў яны запаўняюцца пячаткамі праз пару гадоў. Пашпарты краін ЕС маюць ад 46 да 100 старонак у залежнасці ад краіны.**



Аляксандра ПАРАХНЯ
E-mail: alesia.ptushka@gmail.com

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 28.04 руб. | 5.05 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 19 495,00 | **19 400,00** |
| Еўра | 22 075,00 | **22 294,00** |
| Злоты | 5 053,90 | **5 060,61** |
| Расійскі рубель | 299,08 | **293,35** |
| Грыўня | 777,85 | **763,94** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 4.05** | | |
| Еўра | 22400/22700 | **22000/22350** |
| Долар ЗША | 19700/19870 | **19120/19450** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)**

| ПРАДУКТЫ | 27.04 Цана руб. | 4.05 |
|---|---|---|
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 179800 | **179 800** |
| Сасіскі, 1 кг | 58500 | **58 500** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 29800 | **28 500** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 80000 | **80 000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 42500 | **42 500** |
| Селядзец, 1 кг | 53000 | **57 000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 135000 | **135 000** |
| Рыс, 0,9 кг | 14500 | **14 500** |
| Грэчка, 0,8 кг | 19500 | **21 500** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дзясятак | 16500 | **16 500** |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 24000 | **24 000** |
| Маянэз, 200 г | 8300 | **6 600** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14500 | **14 500** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 39500 | **39 500** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 14000 | **14 000** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 9900 | **9 900** |
| Часнок, 1 кг (малады) | 79500 | **79 500** |
| Капуста, 1 кг (маладая) | 17000 | **14 500** |
| Морква, 1 кг (маладая) | 12900 | **14 900** |
| Баклажаны, 1 кг | 58900 | **59 500** |
| Лімоны, 1 кг | 40000 | **40 000** |
| Апельсіны, 1 кг | 25000 | **25 000** |
| Мандарыны, 1 кг | 35000 | **35 000** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 25000 | **25 000** |
| Ківі, 1 кг | 29900 | **28 500** |
| Буракі, 1 кг | 6000 | **6 000** |
| Памідоры, 1 кг | 37000 | **37 000** |
| Агуркі, 1 кг | 28000 | **26 900** |
| Перац, 1 кг | 58900 | **54 900** |
| Радыска, 1 кг | 29900 | **24 900** |
| Кабачок, 1 кг (малады) | 29900 | **19 900** |
| Вінаград, 1 кг | 38500 | **38 500** |
| Бананы, 1 кг | 29000 | **26 900** |
| Гранаты, 1 кг | 40000 | **34 900** |
| Шампіньёны св., 1 кг | 55000 | **-** |
| Яблыкі, 1 кг | 13000 | **13 000** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 25000 | **25 000** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 18 000 | **18 000** |
| Масла, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Тварог, 1 кг | 60 000 | **60 000** |
| Бульба, 1 кг | 2 500 | **2 500** |
| Сала, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 25 000 | **25 000** |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | **60 000** |

МОЛОДЕЧНЕНСКИЙ ФИЛИАЛ УП «МИНСКОЕ ОТДЕЛЕНИЕ БЕЛОРУССКОЙ ТОРГОВО-ПРОМЫШЛЕННОЙ ПАЛАТЫ»

КУРСЫ ИНОСТРАННЫХ ЯЗЫКОВ

✓английский ✓немецкий ✓польский

г. Молодечно, ул. Буховщина 60/1, пом. 54, 1 этаж
Тел.: 8 (0176) 70 31 15, 70 31 16, 8 (029) 635 35 74
e-mail: tppm-mo@tppm.by, http://www.tppm.by
УНП 100144204

## Зноў абакралі гараж у Вілейцы

ВІЛЕЙКА

У ноч на 25 красавіка зламыснік узламаў навясны замок і пранік у гараж віляйчаніна ў гаражна-будаўнічым кааператыве №2 у Вілейцы.

Зніклі адтуль зварачны апарат, бензапіла, перфаратар, кампрэсар і іншыя інструменты.

Напярэдадні днём гаспадар быў у гаражы. Калі прыйшоў назаўтра – убачыў, што хтосьці залез туды, расказаў начальнік аддзялення крымінальнага вышуку Вілейскага РАУС **Дзмітры Антановіч**.

Страты перавысілі 19 мільёнаў рублёў. Узбудзілі крымінальную справу за крадзеж.

Нагадаем, што за тыдзень да гэтага, у ноч на 18 красавіка, абакралі яшчэ адзін гараж у Вілейцы. І ў тым жа самым кааператыве.

**Аддзел інфармацыі.**

## Гаспадар ранкам цепліў лазню – неўзабаве яна загарэлася

ВІЛЕЙКА

Каля дзевяці гадзін раніцы 1 мая паведамілі аб загаранні лазні ў вёсцы Язні Даўгінаўскага сельсавета.

Па прыбыцці выратавальнікаў увесь дах лазні гарэў адкрытым полымем.

У выніку пажару знішчаны дах, лазня выгарала знутры.

Гаспадар лецішча, мінчанін, расказаў, што ў гадзін сем раніцы цепліў лазню. Пабыў там нейкі час, але потым пайшоў у дом. Неўзабаве туды прыбег сусед і сказаў, што гарыць лазня. Суседзі і выклікалі выратавальнікаў.

Гаспадар спрабаваў тушыць загаранне вадой са шланга, але не атрымалася. Выцягваў ён маёмасць з прыбудовы.

Папярэдняя прычына пажару – парушэнне правілаў устройства пячнога ацяплення, паведаміў інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Дзмітры Кляшняк.**

**Аддзел інфармацыі.**

## Міліцыянеры накрылі самагонны завод – апарат важыць некалькі тон

МАЛАДЗЕЧНА

Супрацоўнікі УУС Мінаблвыканкама ўвечары 28 красавіка спынілі дзейнасць чарговага буйнога аптовага вытворцы самагонкі ў Маладзечанскім раёне. Канфіскавалі 270 літраў самагону і 3500 літраў брагі.

Як адзначыў падпалкоўнік міліцыі **Андрэй Амбражэй**, нягледзячы на свой малады ўзрост, 24 гады, мужчыну ўжо неаднаразова прыцягвалі да адказнасці за выраб самагону.

"Бутлегер" увесь час мяняў месца сваёй вытворчасці, знаходзіў для гэтага закінутыя пабудовы ў маланаселеных вёсках, для разагрэву брагі выкарыстоўваў газ у балонах. Адпаведна ніякіх візуальных прыкмет самагонаварэння гэтыя аб'екты не мелі.

Аднак міліцыя, нягледзячы на ўсе гэтыя хітрыкі, рана ці позна закрывала чарговы яго "праэкт", шмат у чым дзякуючы дапамозе неабыякавых грамадзян.

У гэты раз для аднаўлення свайго бізнесу малады чалавек вырашыў прыстасаваць прыватны падворак у прыгарадзе Маладзечна, які дастаўся яму ў спадчыну ад бабулі. Хлеў на гэтым участку новы гаспадар цалкам абсталяваў пад цэх нелегальный вытворчасці самагонкі.

Да працы аптавік прыцягнуў таксама і наёмнага рабочага, па словах якога яны штодня выдавалі на-гара 200-300 літраў спіртнога. Яго неадкладна адпраўлялі на продаж.

Каб атрымаць максімальную выгаду і паскорыць вытворчы працэс, самагоншчыкі дадавалі ў брагу ў вялікай колькасці так званы ў іх асяроддзі "фермент" – актыватар закісання.

Дзякуючы выкарыстанню газу, завод не прыцягваў да сябе ўвагі аднавяскоўцаў. Месцазнаходжанне самагоннага апарата выявілі ў ходзе аператыўных мерапрыемстваў. Супрацоўнікі міліцыі заспелі самагоншчыкаў непасрэдна ў момант "гонкі". Цяпер дэмантуецца апарат, вага якога складае некалькі тон.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**


ЦЕНТРАЛЬНЫЙ (г. МИНСКА) ОТДЕЛ
Департамента охраны МВД Республики Беларусь
приглашает на службу на должности:
- МИЛИЦИОНЕРА
- МИЛИЦИОНЕРА-ВОДИТЕЛЯ
Требования: возраст до 25 лет, образование не ниже среднего, годные к строевой службе
Предлагаем: стабильную зарплату, полный соц.пакет, общежитие или компенсация за найм жилья, 2 года службы в Департаменте охраны идут в зачет службы в армии
З/п от 6 000 000 руб.
Тел. 8 (017) 327-38-08, 8 (029) 559-87-11
8 (029) 606-21-28, 8 (017) 203-46-95
УНП 100060804



ФРУНЗЕНСКИЙ (г. МИНСКА) ОТДЕЛ
Департамента охраны МВД Республики Беларусь
объявляет набор на должности
МИЛИЦИОНЕРА
- ГРУППЫ ЗАДЕРЖАНИЯ
- ВОДИТЕЛЯ
Требования: не старше 25 лет, с образованием не ниже среднего, возможно не служившие в Вооруженных Силах Республики Беларусь.
ПРЕДОСТАВЛЯЕМ ОБЩЕЖИТИЕ, производим компенсацию за найм жилого помещения.
Тел. (017) 201 49 46
(029) 872 26 47
Наш адрес: г. Минск, ул. Пономаренко, 4, группа кадров
УНП 100079433





Часам гаспадары самі ствараюць умовы для таго, каб іх машыны абакралі. Або прыцягваюць зладзеяў, пакінуўшы ў салоне дарагія рэчы, грошы ці ключы.

# У Маладзечне рэзка абвастрылася крымінальная сітуацыя

МАЛАДЗЕЧНА

**Асабліва заўважна павялічылася колькасць карыслівых злачынстваў.**

За апошнія гады стала больш крадзяжоў аўтамагнітол і іншай маёмасці з машын. Ад пачатку года Маладзечанскі райаддзел міліцыі зарэгістраваў 51 злачынства, звязанае з крадзяжамі з розных машын. Сярод іх нераскрытымі застаецца 45 злачынстваў ( 88%).

Найчасцей крадуць з машын у наступных мікрараёнах: Паўднёвым (вуліцы Міру, Багдана Хмяльніцкага, Будаўнікоў), Заводскім (вуліцы Ясінскага, Драздовіча, Маркава), Савецкім (Парашкі) і Паўночным (Лясныя).

Зламыснікі крадуць розныя рэчы, ад прыкурвальнікаў да акумулятараў.

У машыны залазяць толькі ноччу. Ёсць тры асноўныя спосабы, якім карыстаюцца злачынцы:

1). Праз незамкнёныя дзверы – 21 факт

2). Праварочваюць ці шкодзяць замок – 17 фактаў

3). Разбіваюць шкло – 3 факты

Падчас агляду месцаў здарэння следчыя знаходзяць неістотныя доказы злачынства, якія не дазваляюць вылічыць злачынцу і параўнаць знойдзеныя матэрыялы з іншымі доказамі з месцаў злачынства.

Не змаглі таксама знайсці сведкаў і відавочцаў крадзяжоў. З машын крадуць па адпрацаваных схемах, якія займаюць лічаныя секунды.

Усе абкрадзеныя аўтамабілі стаялі на ахоўных стаянках у дварах дамоў. Гаспадары, ставячы машыну каля дома, спадзяюцца, што зладзеі абыдуць іх аўто бокам, але адбываецца якраз наадварот. Пасля яны звяртаюцца ў міліцыю, аднаўляюць разбітае шкло.

Усё магло б быць па-іншаму, калі б гаспадары ставілі машыны ў гаражы, на ахоўныя стаянкі ці ўсталявалі б сігналізацыю.

Супрацоўнікам міліцыі вельмі дзіўна, што некаторыя аўтааматары, купіўшы машыну за тысячы долараў, ніяк не ахоўваюць дарагую маёмасць. Маладзечанская міліцыя рэкамендуе ўласнікам аўтамабіляў ставіць сігналізацыю на сваю машыну, і чым складаней яна будзе, тым лепш.

Усе аўто, якія сталі ахвярамі зламыснікаў, былі без сігналізацыі.

Яшчэ адна важная парада ад Маладзечанскай міліцыі – **не пакідайце ў аўтамабілі** ключы, дакументы, аўтамагнітолу, сумкі і іншыя каштоўныя рэчы. Ні на "толькі адну ноч", ні на "ўсяго толькі 15 хвілін". Гэтымі рэчамі вы правакуеце зладзеяў.

За крадзеж любой маёмасці прадугледжаная адказнасць, і максімальнае пакаранне за гэта злачынства – тры гады пазбаўлення свабоды.

**Валянцін АСІПОВІЧ,**
**начальнік Маладзечанскага РАУС,**
**падпалкоўнік міліцыі.**

## Да нападу на банк у Беразінскім датычныя двое маладзёнаў

### За інфармацыю аб уладальніках матацыкла абяцаюць узнагароджанне

МАЛАДЗЕЧНА

**Нагадаем, што 21 красавіка каля 17 гадзін здзейснілі напад на работніка аддзялення "Беларусбанка" ў пасёлку Беразінскае Маладзечанскага раёна.**

Злачынец пагражаў работніку аддзялення падобным да пісталета прадметам і скраў 60 мільёнаў рублёў.

Устанавілі, што да здзяйснення злачынства датычныя двое маладых людзей. Ёсць усе падставы меркаваць, што зламыснікі былі на матацыкле "ІЖ-Планета 4" без рэгістрацыйных нумароў. Яго знайшлі непадалёку ад месца здарэння.

Матацыкл мае шэраг характэрных прыкмет. Яго перафарбавалі ў сіні колер (заводскі колер – зялёных тонаў). Сядзенне абвязанае празрыстым скотчам, у мацаванні задняга паказальніка павароту, а таксама спідометра выкарыстаная сіняя ізаляцыйная стужка.

Супрацоўнікі міліцыі просяць усіх, хто валодае інфармацыяй аб уладальніках гэтага матацыкла ці па факце разбойнага нападу, паведаміць у Маладзечанскі РАУС па нумарах: **8-017-677-16-56, 8-029-697-37-03, 8-029-753-99-40, 8-029-140-83-32.**

Канфідэнцыяльнасць і ўзнагароджанне гарантуюцца.

**Аддзяленне інфармацыі і грамадскіх сувязяў УУС Мінскага аблвыканкама.**



**Даведка "РГ". Аляксандр Бажко.** Нарадзіўся ў Маладзечне. Скончыў маладзечанскую СШ №2 з залатым медалём. Вучыўся на медыка-псіхалагічным факультэце Гродзенскага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта (1997-2003 г.), скончыў з чырвоным дыпломам. У 2001 годзе прайшоў медыцынскую практыку ў Гданьскай медыцынскай акадэміі. Атрымаў падрыхтоўку па гештальт-тэрапіі Маскоўскага гештальт інстытута. Прайшоў інтэрнатуру і спецыялізацыю на базе Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтра псіхічнага здароўя, пасля чаго яму прысвоілі кваліфікацыю доктара-псіхіятра. Ад жніўня 2004 года працаваў у Маладзечанскім псіханеўралагічным дыспансеры на пасадзе доктара-псіхіятра-нарколага. Па сумяшчальніцтве працаваў доктарам-псіхіятрам выязной псіхіятрычнай брыгады станцыі "хуткай дапамогі", а таксама доктарам-псіхатэрапеўтам. Выкладаў у медыцынскім каледжы. У 2013 годзе скончыў клінічную ардынатуру на кафедры псіхіятрыі і медыцынскай псіхалогіі Беларускага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта па псіхіятрыі-наркалогіі. Ад 2013 года загадвае псіханеўралагічным дыспансерам, галоўны пазаштатны доктар-псіхіятр-нарколаг Маладзечанскага раёна. У 2014 годзе яго прызналі лепшым доктарам-псіхіятрам Мінскай вобласці, а таксама лепшым доктарам-псіхіятрам Беларусі. Па

# Ачысціце сябе ад стрэсу, і вам не давядзецца лячыць неўроз

**Чысціць зубы нас навучылі. А вось чысціць псіхіку ад стрэсаў – неяк забылі. Высвятляем, як і дзе трэба выпускаць пару, каб заўсёды быць у тонусе і не губляць адчування радасці.**



Фота medicinenp.com.

Псіхапрафілактыка – гэта пра тое, як навучыцца жыць са сваімі эмоцыямі, дзе, калі і як іх трэба выпускаць.

Па статыстыцы, да кабінета псіхатэрапеўта даходзіць не больш за 30% усіх хворых на псіхічныя расстройствы. "РГ" прыйшла на прыём да загадчыка Маладзечанскага псіханеўралагічнага дыспансера доктара-псіхіятра-нарколага **Аляксандра Бажко** і папрасіла патлумачыць, што за хваробы хаваюцца за псіхічнымі расстройствамі, калі трэба пачынаць іх баяцца і, галоўнае, як іх убачыць, пакуль не позна лячыць.

### Розныя эмоцыі – гэта нармальна

Неўроз – вельмі распаўсюджаная з'ява. Часта людзі гадамі жывуць у пастаянным стрэсе. Яны самі сябе даводзяць да гэтага стану, самі правакуюць зрыў.

Натуральнае пытанне: што мы робім для прафілактыкі? Кожны з нас ведае, як чысціць зубы. Ведае, што гэта трэба рабіць два разы на дзень. Нас да гэтага прывучаюць з дзяцінства, і мы гэта робім.

Пра псіхапрафілактыку мала хто ведае. І ўвогуле пра сферу эмоцый. Раней гэтаму не вучылі. Сёння ўжо ў дзіцячых садках расказваюць пра розныя эмоцыі. Дзецям прапануюць на пачатку дня, калі яны прыходзяць, паставіць фішку на востраў, які адлюстроўвае іх стан. Напрыклад, на востраў гора ці востраў радасці. Калі выхавальнік бачыць, што дзіця сёння знаходзіцца на востраве гора, гэта сігнал, што з ім варта пагутарыць, паспрабаваць яму дапамагчы.

### Эмоцыі трэба "адрэагаваць"

Узгадваю адну гісторыю, якая здарылася, калі мой сын хадзіў у садок. У адны выхадныя мы разам праводзілі час. Ён пачаў сваволіць, і я на яго прыкрыкнуў. Гляджу – задрыжэла ніжняя губа, з'явілася сляза, і ён пайшоў да сябе ў пакой. Я тады падумаў: вось жа ведаю шмат пра псіхатраўмы дзяцінства, а свайму сыну яе наношу.

Вырашыў схадзіць да яго прагаварыць сітуацыю. Прыадчыняю дзверы ў пакой, а ён ляжыць на канапе і з усёй сілы калоціць па ёй. Я напружыўся, спытаўся, што з ім. Ён зусім спакойна павярнуўся і адказаў: "Не перашкаджай, я эмоцыі "адрэагоўваю"!" Яму тады было гады чатыры, ён яшчэ картавіў. Я сказаў: "Добра. Скончыш, прыходзь да мяне".

Тое, што ў садках, у школах цяпер працуюць псіхолагі, гэта вельмі правільна. Дзеці разумеюць, што можна злавацца, але з гэтымі эмоцыямі трэба нешта рабіць. Ім даюць канкрэтныя інструменты: легчы і пабарабаніць рукамі па канапе ці пакалаціць спецыяльную грушу альбо падушку. Укладаюць разуменне, што эмоцыі трэба "адрэагаваць".

Псіхапрафілактыка – гэта штосьці пра гэта. Пра тое, як навучыцца жыць са сваімі эмоцыямі, дзе, калі і як іх трэба выпускаць.

Знешне па чалавеку можа быць не бачна, што з ім нешта не так, але ён можа адчуваць напружанасць, раздражнёнасць, можа зрывацца на іншых. Альбо хоча сарвацца, але стрымлівае сябе, што яшчэ горш. Гэтыя праблемы звычайна маюць людзі, якія займаюць кіруючыя пасады і ўвесь час вырашаюць канфлікты. Гэтак жа падобныя праблемы могуць мець і падначаленыя, якія часцяком падаўляюць свае эмоцыі. Начальніку ж не заўсёды можна сказаць, што ён не мае рацыі. Правільна, трэба сябе стрымліваць, але калі нікуды эмоцыі не выпускаць, яны пачнуць бушаваць унутры. Часта гэта правакуе артэрыяльную гіпертэнзію, інфаркты, інсульты.

Тыповы партрэт пацыента з інфарктам міякарда: актыўны, працавіты, амбіцыйны мужчына 40-65 гадоў. Ён скіраваны на дасягненне пастаўленай мэты. Як вынік – паспяховасць, сярэдні дастатак. Калі церпіць няўдачу, становіцца больш актыўным. Яго паводзіны становяцца эгаістычнымі і агрэсіўнымі.

На фоне доўгай і мэтанакіраванай працы на знос, звышурочнага графіка працы і недасыпання гэтыя шэраг няўдач непазбежны. Ён пачынае на іх злавацца. Няўдачы расцэньвае як пройгрыш, слабасць. Ён спрабуе працаваць яшчэ больш актыўна, але раздражняецца сам на сябе, падаўляе агрэсію. Кіпіць, напружваецца і стрымліваецца. Вось крок ад неўрозу да рэальнай хваробы.

### Што рабіць

Адказ вельмі просты: вучыцца. Каб есці мяса, трэба мець моцныя зубы. Каб мець моцныя зубы, трэба вучыцца іх чысціць. І да стаматолага на дарагое лячэнне не давядзецца ісці.

Ніколі не позна звярнуцца да доктара ці спецыяліста і атрымаць кансультацыю. Да псіхатэрапеўта можна прыйсці з рознымі праблемамі. Напрыклад, калі вы не знаходзіце ўзаемаразумення са сваімі дзецьмі. Альбо калі вашы адносіны з жонкай ці мужам зайшлі ў тупік ці калі вы нешта не можаце падзяліць. Прыходзьце і кажыце: "Я злуюся, мы сварымся апошнія два месяцы!" Спецыяліст вас выслухае і, магчыма, дапаможа разабрацца ў сітуацыі і знайсці правільнае выйсце.

Бывае, напрыклад, у сям'і заведзена, што муж ніколі не саступае жонцы. Ніколі не прызнае, што не за ім праўда. Дзіця, якое расце ў такой сям'і, потым пераносіць мадэль гэтых адносінаў на сваю ўласную сям'ю. З гэтага можа вынікаць шмат праблем. Над гэтым трэба працаваць, варта размаўляць, глядзець на рэчы рацыянальна. Хочаце сваю сям'ю будаваць інакш, рабіце так і рабіць. Што здарыцца, калі вы зробіце штосьці не так, як звычайна? І далей мадэляваць уяўную сітуацыю.

Ці, да прыкладу, муж злуецца на халодную вячэру. А што перашкаджае прыходзіць дадому своечасова? Трэба балансаваць свае і грамадскія інтарэсы, тады і праца будзе больш эфектыўнай, і з'явіцца час парадаваць родных.

**Гады тры таму да мяне на кансультацыі хадзілі і маці, і дачка. Але яны ніколі не перасякаліся. Прыкладна паўтара года яны выбіралі розны час. Адна адной пра сваё рашэнне хадзіць да псіхіятра не казалі. Аднойчы яны сустрэліся перад маім кабінетам. І гэтая сустрэча – нямая сцэна. Толькі здзіўленае: "І ты?" Але гэта потым спрасціла іх стасункі, дапамагло знайсці паразуменне.**

Настасся РОЎДА.

# Гераічны і загадкавы подзвіг роты Георгія Кіяшкі ля Краснага ў 1944-м

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Дзмітры Брыштэн, кіраўнік пошукавага атрада "Айчына-Рубон" з Радашкавічаў, займаецца тым, што адкрывае таямніцы ваеннага часу, вяртае імёны герояў, што загінулі падчас Другой сусветнай вайны на Маладзечаншчыне.**

Гісторыю лёсу роты пад камандаваннем лейтэнанта **Рыгора Кіяшкі** прынёс Дзмітры ў рэдакцыю "РГ".

– Пры вызваленні Краснага быў здзейснены гераічны, але трохі загадкавы подзвіг, – пачынае расказ Дзмітры.

Нагадаю, што баі за Краснае былі жорсткімі і ішлі з перапынкамі ад 2 да 5 ліпеня. Немцы адступалі і біліся жорстка.

**Раніцай 2 ліпеня трэцяя рота 45-га танкавага палка 9 гвардзейскай мехбрыгады пад камандаваннем лейтэнанта Рыгора Кіяшкі атрымала загад атакаваць Краснае да падыходу асноўных сіл.**

І гэта пасля начнога маршу і фарсіравання ракі Бярэзіна!

Стомленыя гвардзейцы на танках без дазапраўкі ўварваліся ў Краснае. Што там адбывалася, можна назваць адным словам – пекла. Савецкіх танкаў было ўсяго пяць. Па выніках баёў, чатыры з іх знішчылі нацысты разам з экіпажамі. Адзін танк з параненымі па загадзе Кіяшкі быў выведзены з Краснага адразу пасля выканання асноўнай задачы.

Страты нямецкага боку былі таксама адчувальныя – каля 30 аўтамашын, больш за 200 байцоў, некалькі танкаў і гармат, у тым ліку самаходных, абозаў. Баі 2 ліпеня за Краснае падрабязна апісаныя ў кнізе акадэміка АН СССР Аляксандра Самсонава "Ад Волгі да Балтыкі", першае выданне якой надрукаванае ў 1963 годзе.

Пацвердзілі знішчэнне тэхнікі і жывой сілы праціўніка, хутчэй за ўсё, танкісты, якія засталіся ў жывых, і мясцовыя жыхары.

У кнізе пішацца пра тое, што ў тым баі Георгі Кіяшка выжыў толькі адзін – з боем прарваўся да сваіх. У лесе ён, знясілены, сустрэў партызан, у якіх прабыў тры дні, затым яго накіравалі ў шпіталь.

З яго слоў, пасля таго як усе танкі былі падбітыя, яны з радыстам **Савянковым**, выдаткаваўшы боекамплект, пачалі адыход. Не даходзячы 50 метраў да лесу, Савянкоў быў забіты.

Але выжыла, як мінімум, два чалавекі.

**Аляксей Аляксандравіч Нізоў** – сяржант, мехкіроўца, 1918 года нараджэння. Дакументы аб тым, што ён застаўся жывым, знаходзяцца ў агульным доступе на сайце obd-memorial.ru.

Кіяшка сцвярджаў, што Нізоў быў забіты ў танку стрэлам у вока і яго труп ён адсоўваў, каб прыняць кіраванне. Акрамя іх, выжылі мехкіроўцы **Васіль Аляксеевіч Ільін** і **Іван Карлавіч Лееў** (лічыцца забітым). Магчыма, іх вывезлі раней на пашкоджаным танку **Смірнова**.

На жаль, мне пакуль не ўдалося дакладна ўстанавіць паэкіпажны спіс трэцяй роты.

Справа ў тым, што пасля падыходу асноўных сіл у Краснае 2 ліпеня разгараўся новы бой і ўстанавіць, колькі дакладна выжыла ў першым баі танкістаў, пакуль праблематычна.

На брані танкаў размясціўся дэсант аўтаматчыкаў са складу разведкі палка. У тым баі змагаўся разведчык палка **Іван Іванавіч Храмцоў**, 1920 года нараджэння. Ён знішчыў з аўтамата з дзясятак гітлераўцаў і выратаваў з палаючага танка механіка-кіроўцу сяржанта **Мішына**. Пасля быў узнагароджаны медалём "За адвагу" і выжыў у вайне.

Крыху па-іншаму распавядае пра тыя баі стралок-радыст танка №206 **Валянцін Бобыр**. Загінуў яго сябар **Сяргей Глазкоў**. Астатнія выжылі, маркуючы па тым, што іх імёнаў няма ў спісах загінулых.

Як бачым, не ўсё так проста. Шмат каму ўдалося выжыць у той мясарубцы.

Загад атакаваць да падыходу асноўных сіл перадаў танкістам ад камбрыга 45 танкавага палка **Бурцава** раніцай 2 ліпеня начштаба палка **Д. Бачурын**. Трэба было на пяці танках уварвацца без падтрымкі ў цэнтр мястэчка, якое было запоўненае праціўнікам з цяжкім узбраеннем, маючы абмежаваны запас паліва ў баках (адставалі палівазаправўшчыкі) і ўтрымаць яго да падыходу асноўных сіл.




Фота Віталя НАЗАРЭВІЧА.

**Дзмітры Брыштэн марыць, каб на гэтым помніку ў Красным з'явілася мемарыяльная таблічка з імёнамі ўсіх танкістаў, якія загінулі тут.**

**Пасля таго як першапачатковую задачу выканалі, у страі заставаліся тры танкі амаль або зусім без паліва. Але нават калі боекамплект ў танкістаў быў фактычна на зыходзе, Кіяшка аддаў загад – "Не адступаць!".**

Цяпер аб лёсах герояў. Кіяшка атрымаў Зорку Героя Савецкага Саюза. Ён памёр у 1995 годзе. Лёс жа многіх астатніх герояў нам невядомы.

Чаму ніхто не паклапаціўся, чаму больш чым з 20 герояў-танкістаў на магіле ў Красным ёсць імя толькі **Аляксандра Нічыпаравіча Ілюшына** – гвардыі капітана, 1917 года нараджэння, а ў Радашкавічах – **Аляксандра Мацвеевіча Львіцына** – гвардыі лейтэнанта, 1914 года нараджэння, і **Андрэя Ягоравіча Чаравікова** – малодшага лейтэнанта, 1921 года нараджэння, ды некалькіх радавых танкістаў.

Танк **Башмакова** быў падбіты самым першым, **Маліка** – другім, **Віцюшова** – трэцім.

У 1969 годзе Георгі наведваў Беларусь, але ці быў ён у Красным? Хутчэй за ўсё – быў. А з капітанам Ілюшыным Георгі Кіяшка раніцай 2 ліпеня 1944-га снедаў у Раёўцы перад боем. Жыхары Раёўкі размалявалі танкі кветкамі. Пра гэта ён у 50-х гадах распавядаў **Аляксандру Самсонаву**.

А дзе ж астатнія? Ёсць у Красным каля чыгункі брацкая магіла. У ёй пахаваныя 10 воінаў-танкістаў. Таксама тут пахаваныя машыніст цягніка і два качагары. Лёсы трох машыністаў-чыгуначнікаў вядомыя. Яны загінулі 29 ліпеня 1944 года пры сутыкненні паравоза, які цягнуў састаў паражняком, і паравоза, які вёз танкі на фронт. Пра гэты выпадак майму бацьку, **Вячаславу Брыштэну**, распавёў сябра качагара **Івана Ліцарава** са Жлобіна. Аднак гэта тэма іншага даследавання. Калі ж загінулі танкісты?

Магчыма, гэта хлопцы з роты Кіяшкі або тыя, хто падышоў пазней, як, напрыклад, экіпаж танка гвардыі лейтэнанта **Львіцына**. А магчыма, гэтыя танкісты суправаджалі тэхніку на эшалоне? Ёсць здагадкі, што ў магіле значацца тэхнікі або байцы з саставу, які вёз танкі і ў які ўрэзаўся паравоз, які ехаў паражняком з фронту. Але апошнія даследаванні па гэтай тэме прымушаюць думаць, што машыністаў пахавалі ў існуючую брацкую магілу невядомых дзесяці воінаў. Якім чынам з пяці афіцэраў 45-га танкавага палка, якія загінулі 2 ліпеня 1944 года ў баях за Краснае, двое лічацца пахаванымі ў брацкай магіле ў Радашкавічах, а адзін – у Красным? Двое адсутнічаюць і там, і там.

З 16 радавых і сяржантаў імёны шасці пазначаныя на помніку ў Радашкавічах, двое лічацца выжыўшымі, астатніх няма нідзе. Па архіўных звестках Радашкавіцкага РВК, на помніку брацкай магілы ў Радашкавічах да 70-х гадоў ніводнага прозвішча з танкістаў няма, як і не адлюстроўваецца факт пераносу астанкаў загінулых з вёскі Краснае ў Радашкавічы. Гэта гаворыць аб тым, што па нейкай прычыне, ужо пазней, дзесьці ў пачатку 80-х гадоў, гэтыя імёны туды трапілі. Вядома, што з 1960-х гадоў буйныя перапахаванні тут не праводзіліся.

Па дадзеных сайта "Подзвіг народа", за гэты подзвіг узнагароджаныя пяць салдат і толькі адзін афіцэр – камандзір роты Кіяшка. А як жа астатнія? Хочацца спадзявацца, што іх ўзнагародныя лісты проста яшчэ не патрапілі ў інтэрнэт.

А архівы? Вельмі няпроста пасылаць запыты на ўзнагароджанне па кожным канкрэтным байцу. Адказ з архіваў таксама ідзе доўга. Для гэтага, уласна, і існуе сайт "Подзвіг народа".

**– Імёны ўсіх воінаў вядомыя, і іх трэба увекавечыць і паведаміць родным пра лёс сваіх мужных сыноў, – лічыць Дзмітры Брыштэн.**

– Але для гэтага трэба правесці карпатлівае даследаванне ў высвятленні лёсу танкістаў. Гэта праца пакуль ідзе марудна. Але можна выгравіраваць іх імёны і замацаваць таблічку на пастаменце ў гонар герояў-танкістаў у Красным.

Поўны пайменны спіс байцоў 45 гвардыі танкавага палка 9 гвардыі механізаванай брыгады 3 танкавага корпусу, якія біліся 2 ліпеня 1944 года ў вёсцы Краснае ў складзе роты Георгія Кіяшкі і іншых рот, глядзіце на сайце




**Запісала Наталля ТУР.**

# Як правільна сартаваць смецце

Усім знаёмыя рознакаляровыя кантэйнеры для асобнага збору адходаў у дварах. І калі да іх знешняга выгляду мы прызвычаіліся, то правілы сартавання выклікаюць шмат пытанняў. Куды выкінуць пасудзінку ад ёгурта, старую вазу, шпалеры, стос старых газет?

Усе гэтыя пытанні чакаюць тых, хто рашыўся асобна збіраць смецце дома.

Памятка дапаможа рабіць гэта нашмат прасцей і прыемней.

Не забывайце і пра іншыя віды адходаў, якія трэба асобна здаваць на перапрацоўку: небяспечныя адходы, будаўнічыя, аўтамабільныя. Адрасы найбліжэйшых да вашага дома пунктаў прыёму такіх адходаў можна знайсці на Зялёнай карце – greenmap.by.

Свае пытанні на тэму адходаў можна задаць спецыялістам грамадскага інфармацыйнага цэнтра па пытаннях хімічнай бяспекі і адходаў па тэлефоне (+37517) 237-40-70 ад 10:00 да 17:00 ці на сайце ecoidea.by праз кнопку "Задаць пытанне спецыялісту".








## Кантэйнеры для паперы

### Можна

- ✓ кардон, у тым ліку каляровы
- ✓ паперу для пісання
- ✓ чорна-белыя і каляровыя газеты
- ✓ глянцавыя часопісы на скобках ці склееныя
- ✓ кардонную ўпакоўку без "бліскучых" уключэнняў, ліпкай стужкі і іншых упрыгожванняў
- ✓ рэкламныя буклеты і брашуры
- ✓ канверты без пластыкавых "акенцаў"
- ✓ інструкцыі і ўкладышы ў каробкі з таварамі, лекамі
- ✓ календары, блакноты, сшыткі (без вокладак і спружын, якія іх змацоўваюць)
- ✓ папяровыя пакеты ад мукі, цукру і інш.
- ✓ кнігі
- ✓ утулкі ад туалетнай паперы і папяровых ручнікоў
- ✓ кардонныя каробкі ад яек
- ✓ канфеці, серпанцін, паперу са шрэдара – пры ўмове, што ўсё надзейна ўпакаванае ў каробку, бо інакш іх адправяць на звалку.

### Нельга

- × шпалеры
- × фотапаперу
- × упакоўку тэтра-пак ад сокаў, малака і іншых напояў*
- × паперу і стужкі з ліпкім слоем, скотч, паперу для нататак
- × ламінаваную паперу і кардон (цвёрдыя пераплёты кніг)
- × бліскучыя пакеты для падарункаў
- × упакоўку ад масла, тварагу і г.д.
- × абгорткі ад цукерак
- × скарыстаныя сурвэткі, папяровыя ручнікі, туалетную паперу
- × брудную ці мокрую паперу і кардон
- × папяровыя кубачкі
- × фольгу
- × чэкі, факсавую паперу

## Кантэйнеры для пластыку

### Можна

- ✓ упакоўкі з маркіроўкай: "PET", "PETE", ці "1" (з поліэтылентэрафталату) "HDPE", "LDPE", "ЗУ" ці "2" (з поліэтылену) "PP" ці "%" (з поліпрапілену) **

  Такую ўпакоўку могуць мець:
  - + бутэлькі ад напояў, піва, малака, алею, воцату, пустыя, з коркамі і без
  - + бутэлькі і іншыя ёмістасці ад шампуняў, геляў і іншых касметычных сродкаў
  - + тара ад мыйных сродкаў і для чысткі, вадкіх сродкаў для мыцця

- ✓ поліэтыленавыя пакеты
- ✓ тканыя пластыкавыя мяшкі
- ✓ пласмасавыя накрыўкі, вёдры, тазы, каністры
- ✓ корпусы ад бытавой, камп'ютарнай тэхнікі (АБС-пластык)

### Нельга

- × упакоўкі тэтра-пак
- × цюбікі ад зубной пасты і крэму (шматслойныя ўпакоўкі)
- × упакоўкі ад маянэзу, кетчупу (з закруткай)
- × бліскучыя ўпакоўкі ад кавы, чаю (шматслойныя)
- × упакоўкі ад чыпсаў
- × упакоўкі з маркіроўкай C/PAP, C/LDPE, C/ALU ці лічбавы код ад 80 да 94
- × упакоўка з маркіроўкай PS ці 6: белыя баначкі ад ёгуртаў, малака, смятаны, латкі ад яек
- × аднаразовы посуд
- × пенапласт
- × канцылярскія прыналежнасці
- × зубныя шчоткі
- × памперсы

## Кантэйнеры для шкла

### Можна

- ✓ бутэлькі ад напояў, шампанскага, віна
- ✓ слоікі і слоічкі ад прадуктаў (можна не мыць, галоўнае, каб не было рэштак ежы)
- ✓ бутэлечкі ад лекаў (накрыўкі і затычкі выкідвайце ў пластык)

### Нельга

- × шкло з вокнаў і мэблі
- × лямпачкі
- × люстэркі
- × тэрмастойкі посуд
- × крышталь
- × кераміку і фарфор



### Важна

* Нельга дапусціць, каб арганічныя адходы траплялі ў кантэйнеры для асобнага збору.

** Неабходна здымаць ПВХ-плёнку (этыкетку-панчоху) з пластыкавых бутэлек ад малака, кефіру, ёгуртаў.

Дызайн Настассі РОЎДЫ, "Рэгіянальная газета".

Крыніца: памятка праекта "Арганізацыя інфармацыйнай кампаніі сярод насельніцтва і СМІ па пытаннях хімічнай бяспекі і абыходжанні з адходамі".

## Вілейка прымала фінал "Залатой рыбкі" і Аляксандру Герасіменю

ВІЛЕЙКА

На выхадных сацсеткі віляйчан і не толькі палі напаўняцца здымкамі разам з **Аляксандрай Герасіменяй**: сфатаграфавацца з вядомай плыўчыхай ахвотных было шмат. А завітала яна 30 красавіка ў Вілейку на фінальны этап рэспубліканскіх спаборніцтваў сярод дзяцей і падлеткаў "Залатая рыбка" на прызы Аляксандры Герасімені. Праходзіў ён у Вілейцы ўпершыню. У цэнтр фізкультурна-аздараўленчай работы "Сатурн" прыехалі з усіх абласцей і Мінска 113 удзельнікаў. А яшчэ – трэнеры, прадстаўнікі. У спаборніцтвах удзельнічалі вучні трэціх і чацвертых класаў. Трапілі на фінал у Вілейку яны па выніках двух этапаў: сталі лепшымі ў сябе ў раёне ці горадзе і на вобласці. Дзеці спаборнічалі на дыстанцыі 25 метраў вольным стылем.

Таксама вызначалі лепшых сямейныя эстафетныя каманды – тата, мама і дзіця.

– Трыбуны былі запоўнены, – расказаў намеснік дырэктара СДЮШАР Вілейскага райвыканкама **Аляксей Тарбееў**. – І Аляксандры Герасімені наш басейн спадабаўся. Двухразовая віцэ-чэмпіёнка летніх Алімпійскіх гульняў 2012 года па плаванні, чэмпіёнка свету і Еўропы ўручала ўзнагароды мацнейшым. Яны атрымлівалі дыпломы, медалі і прызы. Сярод дзяўчынак-трэцякласніц перамагла прадстаўніца Маладзечна **Ксенія Слізык**. У агульнакамандным заліку на першым месцы прадстаўнікі Мінска. Каманда сталічнай вобласці – на другім, Гомельскай – на трэцім. Плыўцы з Гродзеншчыны сталі пятымі.

**Даведка "РГ".** Упершыню спаборніцтвы "Залатая рыбка" прайшлі ў 2013 годзе. Адна з яго галоўных задач – папулярызацыя і прапаганда плавання як важнага сродку ўмацавання здароўя дзяцей і падлеткаў.

## "Ашмяны" прайгралі трэці матч запар

АШМЯНЫ

У трэцім туры чэмпіянату Беларусі па футболе ў першай лізе ФК "Ашмяны" сустракаўся ў гасцях з "Зоркай-БДУ" з Мінска. Ашмянцы прайгралі 1:3

– Галы прапускалі з-за памылак у абароне, – тлумачыць прэс-аташэ ФК "Ашмяны" **Аляксандр Навумчык**. – У канцы першага тайма быццам бы выраўнялі гульню, скарацілі лік да 1:2. Была надзея, што пасля перапынку гульня пойдзе ў зусім іншым кірунку, але зноў памыліі. Як вынік 1:3. Хлопцы выкладваліся на поўную і моманты стваралі, але, як заўсёды, крыху не хапала.

У "Ашмянаў" гол забіў у канцы першага тайма **Вадзім Міхалевіч**.

Спадзяецца Аляксандр, што ў суботу, 7 мая, у дамашнім матчы са "Смалявічамі-СТІ" гульцы памылак не дапусцяць і перамога будзе за "Ашмянамі".

Пакуль "Ашмяны" займаюць апошняе месца ў турнірнай табліцы.

## "Смаргонь" прайграла "Тарпедзе"

СМАРГОНЬ, АШМЯНЫ

"Смаргонь" жа пасля трэцяга тура апусцілася на шостае месца. Дома 30 красавіка смаргонцы прайгралі мінскаму "Тарпеда" 1:2. Яны прапусцілі па адным голе ў кожным тайме. Гол у адказ забіў з пенальці **Сяргей Крот** – ды толькі на 87-й хвіліне.

Галоўны трэнер "Смаргоні" **Мікалай Рындзюк** лічыць, што прайгралі ў адзінаборствах, у падборы і ў жаданні перамагчы.

Наступны матч "Смаргонь" правядзе 8 мая ў гасцях супраць "Баранавічаў".

## Віляйчанка стала другой на адкрытым чэмпіянаце Беларусі па плаванні

ВІЛЕЙКА

Ад 20 да 23 красавіка ў Брэсце праходзіў адкрыты чэмпіянат Беларусі па плаванні памяці А. Каваленкі.

Удзельнічала ў ім навучэнка СДЮШАР Вілейскага райвыканкама **Лізавета Шчарбакова**. Найбольшага поспеху яна дасягнула ў складзе каманды Мінскай вобласці ў эстафеце 4 па 200 метраў вольным стылем – заняла другое месца.

Падчас адкрыцця спаборніцтваў Лізавеце Шчарбаковай уручылі пасведчанне і значок майстра спорту Беларусі, паведаміў намеснік дырэктара СДЮШАР **Аляксеў Тарбееў**.

У чэмпіянаце ўдзельнічалі амаль 350 спартсменаў, у тым ліку лідары беларускага плавання Аляксандра Герасіменя і **Яўген Цуркін**. Апроч беларусаў, спаборнічалі плыўцы з яшчэ сямі краін.

**Алесь ВЫСОЦКІ**



Футбалісты "Маладзечна ДЮСШ 4" і "Гомеля ДЮСШ - ДСК" на ўрачыстым адкрыцці сезона ў Гомелі.

Фота dsk-gomel-football.ru

# Аляксандр Гармаза: "Задач на сезон няма, адны алгарытмы"

МАЛАДЗЕЧНА

> – Хлопцы гуляюць у футбол, таму што проста хочуць гуляць у футбол.

Так **Аляксандр Гармаза**, галоўны трэнер "Маладзечна ДЮСШ-4", пракаментаваў пытанне наконт таго, якія задачы ставіць перад сабой каманда на сезон 2016 года.

– З такім стаўленнем да нас мясцовых уладаў добра, што ўвогуле гуляем. Падрыхтоўчы перыяд быў скамечаны. Мы трэніраваліся і самі не ведалі, дзе ў выніку будзем гуляць: на вобласці ці рэспубліцы. Таму і першая гульня атрымалася сумбурная. Але я не сказаў бы, што гульнёй я не задаволены – вынікам, так.

У мінулую суботу, 30 красавіка, адбыўся першы матч у другой лізе. Гэту гульню каманда Аляксандра Гармазы згуляла ў Гомелі супраць мясцовай каманды ДЮСШ-ДСК. Закончылася сустрэча з нічыйным вынікам – 0:0.

– Урок футбола гомельскім футбалістам мы далі. А тое, што ад 37-й хвіліны гулялі 10 маіх футбалістаў, дык гэта пытанне да дысцыпліны. Нам аднаго гэтага чалавека, **Мікіты Харко**, якраз і не хапіла. А моманты былі, не ставала канцэнтрацыі і свежасці.

Пра тое, як рыхтуецца каманда да гульні з пінскай "Хваляй", маладзечанскі трэнер адказаў:

– Мне няма розніцы, хто сапернік, "Хваля" ці "Забудова". Настрой на гульні заўсёды аднолькавы. З той толькі розніцай, што ў Пінску гуляюць прафесійныя футбалісты, для якіх футбол – гэта работа, а для гульцоў нашай каманды работа на першым месцы, а потым ужо гульня.

### У каманду вярнуліся былыя маладзечанскія футбалісты

Сёлета адстойваць зялёна-белыя колеры каманды будуць мясцовыя маладзечанскія гульцы, выхаванцы спартыўнай школы.

Вярнуўся **Сяргей Дрозд**, які мінулы сезон правёў у камандзе "Хімік" са Светлагорска, **Ігар Нарожнік**, які ў 2015 годзе гуляў ва Уздзе, і **Юры Пустаход** з той жа каманды. **Павел Галубовіч** са сталічнай каманды "Прамень" вярнуўся не толькі ў каманду, але і працаваць будзе ў родным горадзе. Павел цяпер працуе выкладчыкам фізкультуры ў гімназіі № 3.

Таксама ў каманду ўвайшлі навучэнцы ДЮСШ-4, хлопцы 1999 года нараджэння.

Некаторых гульцоў, якія запомніліся аматарам футбола, каманда сёлета не далічыцца.

Не будзе гуляць **Сяргей Лавор**, ён шчыльна заняўся міні-футболам, сышлі ў іншыя каманды **Цімафей Ігруша** ("Слонім"), **Аляксандр Парфёнаў** і **Ілля Ануфрыеў** ("Ашмяны"), **Уладзіслаў Фядотаў** ("Іслач").

– Павел Суман таксама вырашыў завязаць з футболам, – каментуе Аляксандр Гармаза, – Павел вырашыў больш часу праводзіць з сям'ёй. Гэта яго рашэнне, я яго падтрымаў.

**– І рашэнне Прохара Новікава сысці ў "Забудову" таксама падтрымалі?**

– Я прасіў Прохара не сячы з-за пляча, падумаць перад тым, як рабіць такі крок. Прохар два дні падумаў і вырашыў сыходзіць у "Забудову".

> У нас з Прохарам апошні час не супадалі погляды на трэніровачны працэс. Я лічу так: хочаш гуляць, калі ласка, не прапускай трэніроўкі. Прохар жа да маіх патрабаванняў не прыслухоўваўся.

Хаця аб яго зыходзе шкадую. Прохар – гулец універсальны, ён шмат карысці прынясіў камандзе.

Змены закранулі і трэнерскі штаб каманды. У гэтым сезоне няма **Сяргея Дараховіча.**

– Яно неяк атрымалася само сабой. Зімой працавалі з камандай **Віталь Казяк** і **Валер Вятроў**. Калі вырашылі заяўляць каманду ў другую лігу, Віталь і Валер папрасілі мяне ўзначаліць каманду. А Сяргей неяк цікавасці да каманды не выказаў. У яго нарадзілася дзіця, я думаю, ён заняты іншымі справамі.

**– Ці з'явіцца сёлета ў нашых футбалістаў новая форма?**

– Ну, старая таксама не выглядае рыззём. І мы выходзім на поле гуляць, а не фарсіць перад дзяўчатамі. Але новы камплект формы ўжо пашыты. Плануем апрануць яго на першую дамашнюю гульню.

**– Як вы ставіцеся да таго, што цяпер вам давядзецца дзяліць дамашні стадыён з камандай "Іслач"?**

– Яны мне не перашкаджаюць. Хай сабе гуляюць. А тое, што дзякуючы ім на стадыён вярнуліся гледачы, гэта добра.

**Гульня супраць пінскай "Хвалі" адбудзецца на гарадскім стадыёне 8 мая. Пачатак гульні ў 17:00.**



Наталля ТУР
natali.turenok
@gmail.com
8-044-566-26-99
(працоўны)

ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

# Калі часу няма, а есці хочацца



Аўтарам сённяшніх рэцэптаў стала **Ларыса Жук** з Валожыншчыны. У яе нямала захапленняў, адно з якіх – вышыванне. Увесь свой вольны час, а яго не так і шмат, яна аддае свайму любімаму занятку. Яда ў яе на другім месцы. Але і тут усё атрымоўваецца.

## Катлеткі "Сама пяшчота"

*800 г курынай печані, 1 цыбуліна, 1 морквіна, 3 зубкі часнаку, 1 яйка, 300 г мукі, 2 сталовыя лыжкі алею, соль, спецыі – на смак.*

Печань дробна нарэжце. Здрабніце цыбулю і часнок, моркву надзярыце на тарцы. Усё змяшайце і дадайце яйка, муку, пасаліце, паперчыце.

На разагрэтую патэльню з алеем выкладзіце лыжкай фарш. Абсмажце катлеткі з абодвух бакоў, затым 5-10 хвілін патушыце.

## Курыныя катлеткі з аўсянымі шматкамі

*500 г курынага фаршу, 1 яйка, 0,5 шклянкі аўсяных шматкоў, 0,5 шклянкі малака ці вады, 1 цыбуліна, 2 зубкі часнаку, спецыі, алей для смажання.*

Яйка змяшайце з малаком, заліце гэтай сумессю шматкі і пакіньце на паўгадзіны. Цыбулю дробна парэжце, часнок здрабніце і дадайце да фаршу, перамяшайце. Дадайце ў фарш набухлыя аўсяныя шматкі, соль, спецыі, вымесіце фарш.

У патэльні разагрэйце алей, лыжкай выкладвайце фарш у выглядзе катлетак.

Абсмажце катлеткі з абодвух бакоў на моцным агні, паменшыце агонь, накрыйце накрыўкай, уліце трошачку вады і патушыце.

Смачна есці.

**Проста МАРЫЯ.**


# Мінскі абласны драматычны тэатр

## Рэпертуар на май

*РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ*

"**Казка пра чырвоную стужачку**" (вясёлыя прыгоды для дзяцей і дарослых), Галіна Латышава, Алег Чэчанеў

12 мая – у 12:00

Кантактныя тэлефоны:
**75-29-16** – намеснік дырэктара,
**76-17-32** – галоўны адміністратар,
**75-24-17** – каса.
E-mail: madt@tut.by
УНП 600066659


СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 4 | | | 3 | 1 | | |
| 5 | 1 | | | | 9 | | | 8 |
| | 7 | | | | 5 | | | 4 |
| | | 8 | 2 | | | | | 7 |
| | 3 | | | | | | 8 | |
| 4 | | | | | 8 | 2 | | |
| 7 | | | 6 | | | | 3 | |
| 1 | | | 3 | | | | 7 | 5 |
| | | 6 | 1 | | | 8 | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



АФІША



Кадр з мультфільма "Angry Birds у кіно". Фота iphones.ru.

# Як наладзіць жыццё, калі цябе раздражняе ўсё

## Кіно Маладзечна

Расійская ваенная драма "**72 гадзіны**" – яшчэ адна сёлетняя прэм'ера на тэму Другой сусветнай.

У самым пачатку Вялікай Айчыннай маленькі гарадок Стаўрава трапляе ў эпіцэнтр вялікай гісторыі. Ён месціцца непадалёк ад фронту, мае некалькі скрыжаванняў дарог, праз яго праходзіць чыгунка. Гэта прыцягнула ў горад буйны гарнізон фашыстаў.

Але ў горадзе дзейнічае падполле, якое арганізавалі ўчарашнія школьнікі. Гэта гісторыя супрацьстаяння двух хлопцаў: камсамольца Аляксея і здрадніка Дзмітрыя.

Яны чыталі аднолькавыя кніжкі ў дзяцінстве, вучыліся ў адной школе і кахалі адну дзяўчыну. Першы аддаў жыццё за тое, што лічыў свяшчэнным – за Радзіму. Іншы катаваў і забіваў сваіх суайчыннікаў, суседзяў, знаёмых, былых аднакласнікаў.

Да Дня Перамогі кінатэатры прапануюць яшчэ адну карціну, але ў зусім іншым стылі – "**Мілы Ханс, дарагі Пётр**". Гэта артхаўсны расійска-нямецка-англійска-ўкраінскі праект, які распавядае пра кароткі перыяд партнёрства паміж СССР і Германіяй перад вайной. Фільм не настолькі дынамічны і відовішчны, гэта хутчэй мастацкае даследаванне пачуццяў і перажыванняў герояў.

Вялікія выхадныя, а куды б схадзіць з дзецьмі пасля доўгіх прагулак, паядання марожанага і катання на атракцыёнах? Спецыяльна для вас "Радзіма" прапануе "**Angry Birds у кіно**". Вельмі смешны і для дзяцей, і для дарослых мульцік пра птушак, якая спрабуе справіцца з гневам, забаўныя сітуацыі і неверагодна яркая графіка. Зарад пазітыву забяваецца на ўвесь дзень!

Мультфільм расказвае, як пачалося знакамітае супрацьстаянне птушак і свінак – персанажаў папулярнай камп'ютарнай гульні. Птушка Рэд жыве на трапічным востраве і спрабуе ўладкаваць сваё жыццё. Герой не можа быць цалкам шчаслівы, таму што ў яго праблемы з кантролем гневу. Ён часта выплёсквае злосць на іншых.

Рэда раздражняе ўсё. Яго лёгка раз'юшыць, таму ён наведвае курсы па кантролі гневам. Там сустракае імпульсіўнага і вар'яцкага Чака, Бомба, якога лепш не расстройваць, бо той можа ўзарвацца.

Аднойчы на востраве высаджваюцца дзіўныя зялёныя істоты, што змяняе жыццё. Паразуменне з гасцямі знайсці не атрымалася. Паступова адносіны паміж птушкамі з праблемамі з кантролем гневу і свінкамі пагаршаюцца і паміж бакамі наспявае супрацьстаянне.

Для вячаровага баўлення часу з сябрамі выдатна падыдзе баявік пра супергерояў "**Першы мсціўца: Супрацьстаянне**".

## Кіно Вілейкі

Кінатэатр "Мір" таксама прапануе ваенную драму "**72 гадзіны**" пра тое, як па рознаму могуць сябе паводзіць у час ліхалецця людзі, якія ў звычайны час маюць столькі агульнага.

Каб пакашчаць нервы, завітайце на трылер "**Сомнія**". У маладой пары памірае сын, і яны бяруць з прытулку васьмігадовага Кодзі. Хлопчык вельмі добры, але мае адну асаблівасць: калі засынае, то сусвет яго сноў ажывае. І гэтыя сны ў рэальнасці бываюць смяротна небяспечнымі.

Мультфільм "**Ваўкі і авечкі: бе-е-зразважнае ператварэнне**" – вясёлая расійская карціна з павучальным зместам пад слоганам "Ты можаш быць кім заўгодна. Галоўнае, заставацца сабой!". Гумар і характары герояў запамінальныя і прывабныя, узровень рэалізацыі не саступае сусветным праектам. Якасная і прыемная карціна для сямейнага адпачынку.

**Аддзел інфармацыі.**

**Пра час і цану кінасеансаў глядзіце ў рубрыцы "Рэпертуары" на нашым сайце**




**Камент-эксперт**

Не трымайце ў сабе: напішыце, што думаеце

Пакідайце каментары пад артыкуламі на інтэрнэт-старонцы Rh.by ці ў суполках газеты ў сацсетках


### На якія ўрокі заменяць фізіку ў 6 класе

Лепш бы фізкультуру далі, дзецям гэта нашмат карысней. ***Юраська.***

### Стаў вядомы расклад гульняў чэмпіянату Беларусі па футболе ў другой лізе (Рэтра-фота з Маладзечна)

Я памятаю гэту гульню 1992 года. На матчы Металург – Трактар (Бабруйск) – 1:0 прысутнічаў Антонаў. А гол са штрафнога забіў Вяжэвіч. P.S. На першым фота бачны хлопчык за спіной Антонава: Сяргей Матусевіч судзіць матчы чэмпіянату вобласці. ***Васіль.***

### Пад Маладзечнам аднаўляюць помнік расстраляным у Айчынную вайну

Чуў, што ў жніўні 1944, побач з гэтым месцам, немцы разбамбілі вілейскіх прызыўнікоў, што сталі на начоўку. ***Nifeus.***

### Каля музычнага каледжа ў Маладзечне кіроўца наехала на пенсіянерку

А можа, справа не ў тым, што пенсіянерка не была абазначаная флікерам, а ў тым, што рэгулюемы пераход познім вечарам стаў, як і многія іншыя ў Маладзечне, нерэгулюемым? Да таго ж, адна з асвятляльных матчаў пераходу не працавала. Эканомія жалезная. ***Hhh.***

### Выстава Міколы і Наталлі Аўчыннікавай "У кругазвароце аднаўлення" адкрылася ў Маладзечне ў пятніцу (Фота)

Любуюся карцінамі Наталлі і дома, і на працы, як, уласна, і большасць маіх калег! ***Святлана.***

ГАРАСКОП
6-12 МАЯ

**Авен.** Чым больш сур'ёзныя вашы намеры, тым больш перспектыў і шчаслівых магчымасцяў вас чакае.

**Цялец.** Для шмат каго гэтыя дні будуць складацца з добрых навін. І нават у дробязях вы станеце адчуваць апякунства Фартуны. Поспех будзе акружаць вас з усіх бакоў. Але асаблівая радасці прыбудзе ў асабістым жыцці.

**Блізняты.** Гэтымі днямі нічога не плануйце, жывіце па свабодным графіку. Гэта дасць вам магчымасць вызваліцца ад думкі наконт нейкай справы і прыняць правільнае рашэнне.

**Рак.** Энергія, смеласць, ініцыятыва, а таксама прывабнасць, мяккасць, мудрасць – гэта ўсё вы. Таму не ўпусціце шанец, каб дасягнуць жаданага.

**Леў.** Калі ўзнікла якая-небудзь складаная сітуацыя, нічога не прадпрымайце. Усё вырашыцца само па сабе. Даверцеся інтуіцыі.

**Дзева.** Вы не раз задумаецеся пра несправядлівасць гэтага свету: вы так стараецеся, каб усім было добра, але менавіта вам у выніку бывае дрэнна. Але на гэта ёсць свае прычыны. Разабрацца ў іх – ваша задача.

**Шалі.** Не будзьце песімістамі, гэта ж пустая трата часу. Калі не ведаеце, чым заняцца, едзьце на прыроду, любуйцеся ёю, адчуйце адзінства. Менавіта ў такія хвіліны прыходзяць у галаву ідэі. Не адкідвайце іх. А дзейнічайце.

**Скарпіён.** Расслабцеся, атрымоўвайце задавальненне ад дробязяў, радуйце партнёра сюрпрызамі, цаніце яго проста за тое, што ён побач.

**Стралец.** Не заганяйце крыўды глыбока ў сябе, умейце даравацъ. І тады жыццё будзе расквечанае рознымі колерамі вясёлкі, вам не прыйдзецца звяртацца па дапамогу да доктара.

**Казярог.** Не здавайце пазіцый і дасягайце недасяжнага. Галоўнае, паверыць у сябе і адчуць сілы. А яшчэ наступае час кахання і пяшчотных пачуццяў.

**Вадалей.** Не шукайце лагічных падказак у розуме, не спрабуйце пралічыць свой шлях. Логіка проста не бачыць сапраўдных шляхоў, іх бачыць толькі сэрца.

**Рыбы.** Ідзіце на ўступкі, калі ў гэтым ёсць патрэба, і настойвайце на сваім у выпадках, калі кампрамісы недапушчальныя. І яшчэ: калі Месяц расце, то распачынайце новыя справы.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

## ● НАДВОР'Е

**7 мая, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Мінск** | +10 / +17 | | +8 / +17 | | +10 / +20 | | +11 / +20 | |
| | 746 | ↓ 6 | 746 | ↙ 6 | 745 | ← 8 | 748 | ↙ 2 |
| **Вільня** | +10 / +17 | | +9 / +19 | | +10 / +20 | | +10 / +20 | |
| | 756 | ↙ 5 | 756 | ↙ 5 | 748 | ← 5 | 756 | ↓ 2 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць, ападкі; Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с; Усход, захад па Маладзечне

Усход 5.20
Захад 20.57
Даўжыня дня 15.37

Усход 6.15
Захад 21.41
Квадра 1




## ● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

**ВАЛОЖЫН**

Мінімальная тэмпература -1,4 °С у 1999 годзе
Максімальная тэмпература +27 °С у 1993 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 20,5 мм у 2015 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

● **Як весці сямейны бюджэт правільна? Як хадзіць у магазін і пры гэтым эканоміць? Што рабіць, калі ваш муж ці жонка робяць залішне дарагія пакупкі? Эксперт падводзіць рысу пад конкурсам "РГ" "Кіруй грашыма".**

## Пройдуць настольныя гульні і "Розум-шоу"

МАЛАДЗЕЧНА

Правесці час разам з настольнымі гульнямі і спецыялістамі ў іх **Генадзем Грыневічам** і **Аляксеем Фядосавым** можна ў Маладзечне ў бібліятэцы "Верасок" у нядзелю, 8 мая. Сустрэча працягнецца ад 12:00 да 16:00.

Інтэлектуальная камандная гульня "Розум-шоу" пройдзе ў "Вераску" ў нядзелю, 15 мая, у 15:00. Вядоўца – ўладальнік "Хрустальнай савы" **Павел Свярдлоў**. Рэгістрацыя на ўдзел адбываецца загадзя па тэлефоне **(80176) 76-06-56** ці **(8033) 669-12-18**.

**Аддзел інфармацыі.**

ТЕПЛИЦЫ из поликарбоната
РАССРОЧКА!
ПАРНИКИ, ДУШИ, БЕСЕДКИ
ПОДАРКИ ПЕНСИОНЕРАМ!
8(017)388-05-81
+375(29)692-12-89
Сайт: capacity.by
Первый поставщик в РБ ООО "Капасити" УНП 691786577

Реставрация ванн
Самый быстрый способ реставрации ванн по лучшей технологии
Ваша ванна остаётся белой 15 лет
(8-044) 792-63-33
(8-033) 392-14-29
ИП Петровская Р.Р. УНП 591807751

Профессиональная РЕСТАВРАЦИЯ ЭМАЛИ ВАНН
Стаж – 15 лет
Сантехнические работы
(8029) 989-56-67
(8029) 553-73-34
(80176) 50-10-18
ИП Кочкин А. А. УНН 190793011

ОКНА ТУТ!
АНТИКРИЗИСНЫЕ ЦЕНЫ!
8(029) 525-25-42
8(044) 727-21-27
ИП Третьяк Е.В. УНП 691896717

ЖАЛЮЗИ
РОЛЬШТОРЫ
РОЛЛЕТЫ
ВСЕХ ВИДОВ
Телефоны:
(8-029) 853-20-06 (МТС),
(8-044) 560-46-96 (Велком).
ИП Глазистов О.С. УНП 690692700

Окна
Рамы
Двери
ПВХ
ПО НИЗКИМ ЦЕНАМ!!!
Рассрочка!!
контактные телефоны
Велком +375-29-664-66-07
Мтс +375-33-664-68-07
ООО «ПрогрессСтройГрупп» УНП 191441595

ЧАСТНОПРАКТИКУЮЩИЙ ВРАЧ ПСИХОТЕРАПЕВТ
СУРОВЦЕВ Николай Викторович
• Консультирование
• Психотерапия панических атак, тревоги, депрессии, психосоматических, поведенческих и других невротических расстройств
• Гипнотерапия
• Психотерапия алкогольной зависимости
• Кодирование
г. Молодечно ул. Будавников 4а каб. 35
+375 44 4562546
www. psyhoterapia.by
postmaster@psyhoterapia.by
Лицензия МЗ РБ № 02040/76638 от 30.10.2013г. Срок действия по 30.10.2023 г.
ИП Суровцев Н.В. УНП 691513732

СК «ТРАЙПЛ-АГРО»
д. Чуденичи Логойского р-на Минской области покупает
ТЕЛОЧЕК
молодняк черно-пестрой породы
или меняем на корма.
Цена договорная.
Справки по телефону Велком (8-029) 1370652
УНП 100017108

ЗАО "Молодечномебель" производит РАСПРОДАЖУ КОЛЛЕКЦИИ МЕБЕЛИ 2015 года ПО ОТПУСКНЫМ ЦЕНАМ.
Мебель находится на образцах в магазинах ЗАО "Молодечномебель"
по адресам: ул. Металлистов, 1
ул. Либаво-Роменская, 83-а.
Предлагает НОВЫЕ ИЗДЕЛИЯ КОЛЛЕКЦИИ 2016 года.
Возможна РАССРОЧКА.
Телефон (80176) 77-61-76 – магазин по ул. Металлистов, 1.
Телефон (80176) 75-18-81 – магазин по ул. Либаво-Роменская, 83-а.
(8044) 7085181 (Велком) ЗАО "Молодечномебель" УНП 600203065.

ОКНА ПВХ, ДВЕРИ, балконные РАМЫ из ПВХ и алюминия
ОДО "БелОкно" УНП 690536156
✓ РАССРОЧКА без % на 12 мес! Нужен только паспорт!
✓ БЕЗ СПРАВОК и ПОРУЧИТЕЛЕЙ! Первоначальный взнос от 10%!
✓ ОФОРМЛЕНИЕ на дому!
brusbox FORIS ПРОФИЛЬ БЕЗ СВИНЦА
Velcom 8-044-762-61-13, МТС 8-029-763-00-32
Velcom 8-029-306-91-99, тел/факс 8-0176-77-58-45

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Што вас больш за ўсё раздражняе ў мужчынах?



**Арцём Радзівілка, трэнер па бодзіфітнесу:**
– Вы ўпэўненыя, што гэта пытанне трэба задаваць мужчынам? А калі сур'ёзна, то ў мужчынах раздражняе нерашучасць, слабасць, няўпэўненасць у сабе. І з сабой змагаюся, калі раптам лаўлю сябе на гэтым.



**Вераніка Касцюк, у дэкрэтным адпачынку:**
– Не люблю, калі муж раскідвае шкарпэткі па кватэры. Яшчэ больш не люблю, калі ён не здымае іх пасля працы. А з астатнім можна мірыцца. Мне яшчэ пашанцавала, што муж не храпе.



**Юлія Карней, ветэрынарны доктар:**
– Сквапнасць, занудства, тое, што ў некаторых мужчын ёсць звычка ныць і скардзіцца на лёс, на жыццё, на людзей. Таксама не падабаецца неахайнасць.



**Ягор Валастных, бармен:**
– Мяккацеласць у мужчынах не падабаецца, калі шмат жаноцкасці, манер. Не стаў бы мець справы з мужчынам, які шмат размаўляе і мала робіць. А сабе часам не люблю за эгаізм.



**Алена Трацэўская, пенсіянерка:**
– У свае амаль 70 гадоў я цвёрда перакананая толькі ў тым, што калі мужчына даў слова, ён абавязаны яго стрымаць. Калі мужчына гаспадар свайго слова, то астатнія недахопы можна даравацъ.



**Яўген Трус, студэнт:**
– Складана сказаць. Напэўна, горшая рыса ў мужчынах, калі яны крывадушнічаюць. І яшчэ бяда, калі ў мужчыны няма пачуцця гумару.



**Наталля Бохан, у дэкрэтным адпачынку:**
– Безадказнасць, калі тое, што паабяцаў, даводзіцца чакаць тры гады. А нейкія бытавыя недахопы можна даравацъ. У мяне муж, напрыклад, не храпе, а дзіця навучыў гэта рабіць. Яна паказвае, як спіць. Вельмі важна гаварыць пра тое, што раздражняе, і выпраўляць гэтыя недахопы.

**Падрыхтавалі Наталля ТУР, Настасся РОЎДА.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№19 (1097) 6.05.2016. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 426. Падпісана ў друк у 9.00 5.05.2016.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.